

М. Міхалап.



Г. Паплаўскі.



Р. Клікушын.



Л. Лейтман.



В. Дзежыц.



А. Забораў.

В. Галубовіч.

# ТВАРЫЦЬ ДЛЯ НАРОДА, У ІМЯ КАМУНІЗМА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

патрабаванні грамадства, а не асобных знаўцаў і цаніцеляў.

На мінулым з'ездзе ўзнімалася пытанне аб адносінах паміж мастакамі і гледачамі. Але, на жаль, яно тады не атрымала выразнага асвятлення і вырашэння. Адна з важнейшых задач мастацтва — развіваць культуру народа, выхоўваць у людзей высокія эстэтычныя густы. Хто, як не мы, мастакі і мастацтвазнаўцы, павінны зрабіць здабыткам працоўных мас сапраўдныя мастацкія каштоўнасці. Але каб пераконваць народ, трэба гаварыць з ім на агульнай мове, жыць з ім аднымі вялікімі чалавечымі пачуццямі і думкамі.

Адной з умоў развіцця здаровай таварыскай крытыкі з'яўляецца патрабавальнасць самога мастака да сябе, яго імкненне да няспыннага творчага росту.

Самая сур'ёзная бяда нашай крытыкі ў тым, што яна часта абмяжоўваецца падзелам твораў на добрыя і дрэнныя. А мэта ж крытыкі, калі па-сапраўднаму разабрацца, — паказаць ступень грамадскай значнасці твора, паказаць, якія тыповыя бакі нашага жыцця ён адлюстроўвае.

Многім нашым крытыкам не хапае ведання жыцця, яны часцей за ўсё варацца ва ўласным саку, унутры свайго асяроддзя. Трэба зрабіць усё, каб нашы крытыкі маглі грунтоўна і глыбока вывучаць рэчаіснасць, ведаць запатрабаванні народа, яго духоўны і культурны ўзровень.

Важнай праблемай, над якой павінна працаваць наша крытыка, з'яўляецца пытанне аб высвятленні нацыянальнай своеасаблівасці мастацтва. М. С. Хрушчоў у сваім дакладзе на XXII з'ездзе партыі гаварыў аб тым, што выкарыстанне нацыянальнага каларыту ў літаратуры і мастацтве зусім натуральна. Аднак архаізм не можа з'яўляцца рысай сучаснай нацыянальнай формы.

Дакладчык заклікае сур'ёзна падумаць аб падрыхтоўцы і выхаванні кадраў мастацтвазнаўцаў. Пры Тэатральна-мастацкім інстытуце мяркуецца адкрыць неўзабаве завочнае мастацтвазнаўчае аддзяленне. На гэтае аддзяленне трэба прымаць людзей з жыццёвым вопытам, людзей, якія любяць мастацтва і могуць прынесці карысць у абранай галіне творчасці.

Неабходна змяніць сам характар работы крытычнай секцыі саюза, заяўляе дакладчык. Трэба дабіцца, каб секцыя не замыкалася, а працавала ў садружнасці з іншымі секцыямі, каб крытыкі пастаянна наведвалі майстэрні мастакоў, ездзілі з імі ў творчыя камандзіроўкі, каб яны выступалі ў газетах і часопісах не толькі з аглядамі і інфармацыйнымі артыкуламі, а авалодвалі майстэрствам крытычнай публіцыстыкі.

Пасля гэтага дакладчык пераходзіць да разгляду становішча ў розных відах і жанрах выяўленчага мастацтва рэспублікі. Гаворачы пра жывапіс, ён зазначае, што секцыя жывапісцаў — найбольш шматлікая і самая актыўная ў саюзе. Яна больш, чым астатнія, папоўнілася маладымі творцамі.

Раздзел жывапісу на нашых выстаўках стаў больш разнастайным і цікавым. Цяпер наглядаецца пэўная гармонія ў суадносінах жанраў: побач з карцінамі на сучасную і гістарычную тэмы можна бачыць пейзаж, групавы партрэт і партрэт, а таксама нацюрморт. Кожны з гэтых жанраў мае свае поспехі. Прыемна адзначыць, што бытавая тэма ў творчасці мастакоў цяпер набывае больш сур'ёзны і значны характар. Яна звязана перш за ўсё з працоўнай дзейнасцю нашых людзей. На гэтую тэму напісаны карціны «Абмеркаванне праекта новага сяла» І. Давідовіча, «Свята ўраджаю» А. Шыбнёва, «На вахту» Н. Воранава, «Абавязацельства» М. Савіцкага, «На малочнай ферме», «Паведамленне ТАСС» Я. Красоўскага, «Ангара-Ангара» І. Стасевіча, серыя работ М. Данцыга, прысвечаная Салігорску, і іншыя.

Не ўсе жанры жывапісу ў нас развіваюцца раўнамерна. Хоць тэматычная карціна займае вядучае месца, аднак у колькасных адносінах на выстаўцы пераважае пейзаж. Само па сабе гэта нядрэнна. Народ праяўляе вялікую цікавасць да вобразаў роднай прыроды. Шкада толькі, што застаецца яшчэ далёка не вырашанай праблема стварэння пейзажа-карціны. Дакладчык адзначае лепшыя пейзажы апошніх год. Яны належаць В. Цвірку, А. Шыбнёву, Галіне Азгур, Н. Воранаву.

Мастакі, якія жывуць у абласцях, таксама больш за ўсё працуюць у жанры пейзажа. Аднак, за выключэннем П. Данелія, І. Пушкова, В. Казачэнкі і ў пэўнай меры А. Каржанеўскага, работы майстроў з абласцей не ўзнімаюцца да ўзроўню пейзажа-карціны. Высокай ацэнкі заслугоўваюць невялікія пейзажы Я. Красоўскага з іх каларыстычнымі асаблівасцямі. І ў той жа час на выстаўках з'яўляецца многа добрых пейзажаў, якія маюць эцюдны характар, — напрыклад, апошнія работы Ф. Дарашэвіча.

Трэба адзначыць, гаворыць П. Нікіфараў, што прырода Беларусі значна больш яркая і багацейшая за тую, якую мы бачым на палотнах. У адлюстраванні прыроды ў нас яшчэ пераважае лірычная інтымнасць у звыклым для жывапісу мінулага выяўленні. Але ж не толькі сама прырода, але і ўспрыйманне яе змяняецца. Не дарма такое добрае ўражанне робіць своеасаблівa скампанаваны, прыгожа напісаны пейзаж «Саўгас «Аколіца» М. Блішча, прасякнуты пачуццём нашага часу, а таксама цікавыя і змястоўныя па матывах, прадуманыя па кампазіцыі пейзажы С. Каткова.

Да гэтага часу ў беларускім мастацтве вельмі адстае партрэтны жанр. Сапраўды, удалых, выразных партрэтаў у нас вельмі мала. Гэта — «Пастух» А. Гугеля, «Партрэт Аладава» І. Ахрэмчыка, натхнёны псіхалагічны «Партрэт мастачкі» М. Савіцкага, прывабны па вобразу партрэт «Леначкі» Я. Харытоненкі. Гэтыя творы, вядома, далёка не вырашаюць праблемы стварэння вобраза сучасніка ва ўсёй велічы і багацці яго ўнутранага свету.

Крыху аднабакова развіваецца гістарычны жывапіс. У ім мастакі больш звяртаюцца да тэмы Айчыннай вайны, забываючыся аб іншых гістарычных падзеях у жыцці беларускага народа.

Асобна трэба сказаць аб рабоце беларускіх жывапісцаў над вобразам Ул. І. Леніна. Гэта невычарпальная тэма, якая набывае ў перыяд будаўніцтва камунізма новы сэнс. За апошні час новых твораў аб Леніне з'явілася нямнога. З іх можна адзначыць хіба толькі карціну І. Давідовіча — «Вялікі пачын», якая перадае каларыт эпохі і з вялікім пачуццём, пераканаўча раскрывае вобраз Уладзіміра Ільіча.

Я ўжо гаварыў аб тым, працягвае далей П. Нікіфараў, што адзін з недахопаў нашага мастацтва — слабае прафесіянальнае майстэрства многіх нашых мастакоў. Асабліва востра стаіць зараз перад намі праблема авалодання кампазіцыяй, каларытам, разнастайнасцю выяўленчых сродкаў. У многіх карцінах прыкметна адстае малюнак. Нам трэба дабівацца дакладнага адбору мастацкіх дэталей і сувязі іх паміж сабой. Мастацтва не церпіць прыблізнасці. Мы ж занадта часта задавальняемся параўнальна «ўдалымі» творамі, што несумяшчальна з уяўленнем аб сапраўдным мастацтве.

Праўленне саюза, гаворыць дакладчык, праз сваю жывапісную секцыю не прымала належных мер для павышэння патрабавальнасці мастакоў да саміх сябе, мала дбала пра стварэнне сапраўднай творчай абстаноўкі, мала ўвагі аддавала кожнаму мастаку паасобку. Вось чаму некаторыя нашы мастакі працуюць яўна ніжэй сваіх магчымасцей.

Пасяджэнні жывапіснай секцыі наладжваліся толькі для таго, каб абмеркаваць якія-небудзь арганізацыйныя пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да выставак, разглядам заяў і розных рэкамендацый. Творчыя ж дыскусіі не праводзіліся. Адзінае абмеркаванне выстаўкі Л. Шчэмелева паказала, што мы яшчэ не навучыліся праводзіць падобныя мерапрыемствы.

Мы не ўдзяляем належнай увагі, зазначае П. Нікіфараў, пытанням павышэння майстэрства, асабліва мастакоў, якія жывуць у абласных цэнтрах. Толькі пры сістэматычнай сувязі мастакоў з абласцей з вядучымі майстрамі рэспублікі можна дасягнуць сур'ёзнага ўздыму мастацтва ў абласцях. Трэба нам, нарэшце, па-сапраўднаму ўстанавіць кантакты з перыферыйнымі жывапісцамі.

Сур'ёзнай крытыкі заслугоўвае стан скульптуры. Беларусь мае добры, моцны калектыў скульптараў. Дакладчык называе імёны такіх нашых майстроў, як З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, С. Селіханаў, якія вядомы за межамі рэспублікі. За апошні час вырасла вялікая група маладых скульптараў. Сярод іх — Г. Мурамцаў, А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, І. Місько, Ул. Папсуеў, С. Вакар і іншыя. Аднак на апошніх выстаўках скульптурныя творы не займалі значнага месца. Хіба не павінна турбаваць тое, што не на поўную сілу сваіх магчымасцей працуе ў станковай скульптуры А. Бембель, мала новых твораў паказаў на апошніх выстаўках А. Глебаў? А хіба не павінна хваляваць тая акалічнасць, што маладыя скульптары І. Глебаў, Г. Мурамцаў, якія не так даўно скончылі вну, не ствараюць такіх твораў, якіх мы маем падставы чакаць ад іх. Відаць, скульптары не зусім правільна размяркоўваюць свае сілы і магчымасці паміж работай па заказах майстэрань і стварэннем твораў для выставак.

Скульптурная секцыя таксама рэдка разглядала творчыя пытанні.

Бадай, лепш за ўсё працавала графічная секцыя. Яна паказала сябе найбольш актыўнай. Паспяхова выступілі на апошніх выстаўках са сваімі работамі А. Паслядовіч, А. Волкаў, В. Ціхановіч. Секцыя папоўнілася добрымі маладымі графікамі, такімі, як А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, А. Лось. Работы гэтых мастакоў не толькі займаюць прыкметнае месца на выстаўках, але і значна ўзбагачаюць раздзел беларускай графікі.

Намеціліся зрухі і ў галіне плаката. Тут побач з мастакамі старэйшага пакалення Я. Тарасам і Р. Ганцэвічам вельмі добра паказалі сябе маладыя плакатысты І. Радунскі, А. Кашкурэвіч. Аднак да гэтага часу мы не дабіліся, каб плакат заняў належнае месца ў нашым мастацтве. Вельмі слаба папаўняецца атрад майстроў сатыры.

У рабоце графічнай секцыі тая ж бяда, што і ў іншых секцыях: творчыя праблемы вельмі рэдка выносяцца на калектыўнае абмеркаванне, не праводзіцца дыскусій. Відаць, усё гэта вынік таго, што праўленне саюза галоўным чынам займалася вырашэннем розных арганізацыйных пытанняў і мала цікавілася пытаннямі творчасці мастакоў. Не выпадкова зусім занядбана работа з мастакамі тэатра і кіно. Мастакі кіно наогул адарваны ад саюза. У мінулым годзе, праўда, праўленне арганізавала па ініцыятыве саміх мастакоў кіно першую выстаўку іх работ, але абмеркаванне не наладзілася.

Зусім недарэчнае становішча склалася з тэатральна-дэкарацыйным мастацтвам. Большасць тэатральных мастакоў, членаў нашага саюза (прычым, гэта датычыць вядучых майстроў), у тэатрах зараз не працуе. Мы занепакоены, гаворыць П. Нікіфараў, чаму такія мастакі, як А. Марыкс, Т. Разіна, І. Ушакоў, П. Масленікаў, Ц. Кіпніс, а таксама малады мастак Б. Забораў не афармляюць тэатральных пастановак? Хто ў гэтым вінаваты? Тэатральна-дэкарацыйная секцыя, па сутнасці, не працуе. Яна нават не здолела арганізаваць разам з Міністэрствам культуры рэспубліканскай нарады мастакоў тэатра.

Крыху ажывілася творчая праца майстроў прыкладнога і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Былі арганізаваны выстаўкі і тэаратычныя канферэнцыі, прысвечаныя ўкараненню прыгожага ў быт народа. У члены саюза прыняты рад мастакоў-прыкладнікоў.

Узровень арганізацыйнай работы, працягвае дакладчык, стыль і метады кіраўніцтва ў нас пакуль зусім не адпавядаюць патрабаванням жыцця. А з-за гэтага церпіць і творчая работа. Неабходна ўсямерна развіваць калегіяльнасць кіраўніцтва, прыцягваць да актыўнай грамадскай дзейнасці ўсіх членаў саюза, палепшыць выхаваўчую работу. Там, дзе мы працавалі энергічна, усім калектывам, былі нядрэнныя вынікі. Нам удалося наладзіць масавую і шэфскую работу, прапаганду мастацтва шляхам правядзення сустрэч з гледачамі, лекцый і гутарак.

Аднак мы яшчэ слаба працуем з моладдзю, гаворыць П. Нікіфараў, недастаткова займаемся яе выхаваннем, мала ўвагі аддаём пытанням прафесіянальнай падрыхтоўкі маладых кадраў жывапісцаў, скульптараў, графікаў. Саюз стаяў убаку ад работы мастацкага вучылішча і Тэатральна-мастацкага інстытута, дзе падрыхтоўка спецыялістаў пастаўлена яшчэ нездавальняюча.

Дакладчык крытыкуе работу Мастацкага фонду. Па сутнасці, наша мастацкая вытворчасць, гаворыць ён, не мае неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай базы. Няма сістэмы ў паступленні заказаў, дрэнна працуюць цэхі, вельмі нізкі ўзровень арганізацыі працы. Праўленне Саюза мастакоў правяло ў верасні 1960 года спецыяльны пленум, прысвечаны рабоце Мастацкага фонду, але і да гэтага часу многія яго рашэнні, якія датычаць арганізацыі творчай працы мастакоў, развіцця такіх важных галін, як эстамп, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, не выкананы.

У выхаванні мастацкіх густаў у працоўных вялікую ролю заклікана адыграць афармленчае мастацтва. Але мы, гаворыць дакладчык, ніколі не ўзнімалі творчых пытанняў развіцця афармленчага мастацтва, звязанага з нагляднай агітацыяй і прапагандай. Мы ні разу не аналізавалі творчасці нашых вядучых майстроў-афарміцеляў, не прымалі захадаў да павышэння іх майстэрства. Наогул аб якасці той прадукцыі, якую выпускаюць нашы майстэрні, сур'ёзнай гаворкі ніколі не было.

Шмат ёсць недахопаў і ў рабоце выставачнага камітэта. Патрабавальнасць выстаўкома да мастакоў павышаецца, але не заўсёды ён выносіць прынцыповыя рашэнні. Як відаць, трэба часцей абнаўляць склад гэтага камітэта і больш дакладна вызначыць яго функцыі. Выставачны камітэт закліка용 арганізоўваць рэспубліканскія выстаўкі з дапамогай саюза, адбіраць лепшыя творы на іх. Вызначэнне тэматычнай накіраванасці карцін, сувязь з творчымі секцыямі, дапамога ў стварэнні ўмоў для паспяховага завяршэння твораў — вось што павінна быць асновай яго работы. І няма сэнсу нагружаць выставачны камітэт іншымі функцыямі, якія ўскладаюцца, напрыклад, на мастацкі савет Міністэрства культуры і на экспертна-закупачную камісію. Мы даўно ставілі пытанне, каб у рабоце экспертна-закупачнай камісіі быў наведзены парадак. Аднак, і да гэтага часу камісія працуе стыхійна, пад канец года, як правіла, робяць масавыя закупкі, не заўсёды адбіраючы лепшае.

У Праграме КПСС, падкрэслівае П. Нікіфараў, гаворыцца аб далейшым павышэнні ролі творчых саюзаў. Мы павінны шырока развіваць грамадскую ініцыятыву мастакоў, аказваць партыі дапамогу ў справе эстэтычнага выхавання народа.

Многага чакае ад нас вёска. Ні адзін чалавек цяпер не можа стаяць убаку ад агульнадзяржаўнай задачы ўздыму сельскай гаспадаркі. Наш творчы саюз мае нямала магчымасцей аказаць дапамогу калгасам і саўгасам у павышэнні культуры насельніцтва, забеспячэнні нагляднай агітацыяй.

Мы, мастакі Савецкай Беларусі, заключае дакладчык, запэўняем нашу Камуністычную партыю, што аддадзім усе свае сілы на выкананне пастаўленых перад намі задач, будзем цвёрда стаяць на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму, партыйнасці і народнасці мастацтва. Мы зробім усё для таго, каб дасягнуць сапраўднага росквіту беларускага выяўленчага мастацтва і ўнесці свой уклад у будаўніцтва камунізма.



М. Савіцкі.



А. Марыкс.



Мал. А. ВОЛКАВА.

А. Каржанеўскі.

М. Манасзон.

Мал. М. ЛІСОЎСКАГА.

# ГАВОРАЦЬ ДЭЛЕГАТЫ І ГОСЦІ

У зале, дзе адбываліся пасяджэнні, у кулуарах з'езда панавалі творчы дух, імкненне асэнсаваць важныя і вялікія пытанні — гутарка ішла аб надзённых задачах, якія стаяць перад выяўленчым мастацтвам Беларусі ў сувязі з рашэннямі гістарычнага XXII з'езда КПСС.

На трыбуну падымаліся прамоўцы, ішлі спрэчкі, разгортвалася крытыка.

Як у дакладзе старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР П. Нікіфарава, так і ў выступленнях дэлегатаў з'езда і гасцей асабліва падкрэслівалася, што рашэнні XXII з'езда партыі, прынятая ім новая Праграма КПСС акрылілі работнікаў выяўленчага мастацтва, як і ўвесь наш народ, на вялікія творчыя справы.

Выкрыццё культу асобы, дэмакратызацыя ўсіх галін нашага жыцця даюць мастаку магчымасць глядзець далей, глыбей разбірацца ў з'явах сучаснасці.

Наша рэчаіснасць у няспынным развіцці і ўдасканальванні. І мастацтва таксама не можа стаяць на месцы, на ўжо дасягнутых пазіцыях. Чэрпаючы сваё натхненне з крыніц жыцця народа, мастак абавязаны шукаць тэмы і вобразы, новыя формы і фарбы, каб уздзейнічаць на гледача, выклікаць у ім высакародныя эмоцыі, развіваць яго эстэтычныя ідэалы, натхняць яго.

На ўсіх нашых творчых выстаўках і з'ездах, адзначае мастак М. Савіцкі, гаворка звычайна ідзе аб значэнні саміх тэм. Але па пытаннях тэматыкі ў нас і спрэчак, як правіла, няма. Усе мы разумеем, што асноўнай тэмай для нас з'яўляецца тэма сучаснасці ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Аднак убачыць у жыцці новае яшчэ недастаткова. Каб быць сучасным, трэба гэтае новае і па-сучаснаму адлюстраваць. Некаторыя лічаць, што адзінымі сродкамі адлюстравання рэчаіснасці па-ранейшаму застаюцца сродкі, якімі карысталіся вялікія мастакі мінулага стагоддзя, прыводзячы як прыклад І. Я. Рэпіна. Але ў настаўніка трэба вучыцца, а не пераймаць яго.



Спрэчкі працягваюцца... Злева направа: Я. Ганкін, А. Паслядовіч, М. Гуціеў і Р. Кудрэвіч.
Фота Ул. Крука.

Працягваючы размову аб майстэрстве, аб непарыўнай сувязі зместу і формы ў творчасці, брэсцкі мастак П. Дурчын гаворыць аб адным з важных прыёмаў мастацтва — алегорыі. Прыводзячы ў якасці няўдалага, на яго думку, алегарычнага вырашэння тэмы ў скульптуры А. Бембеля «Хай ніколі не будзе ўзняты меч», прамоўца гаворыць, што твор гэты пакідае гледача абыякавым, не выклікае ў яго эмоцый і роздуму.

Нельга забываць заканамернасці алегорыі, разважае П. Дурчын, яе мовы, прынцыпаў, дзе мера рэалізму дапускае пэўную меру ўмоўнасці, дзе эмацыянальнасць, глыбіня думкі, пластычнасць і дэкаратыўнасць спалучаюцца ў адзінае гарманічнае цэлае. Парушэнне гэтага адзінства немінуча прыводзіць да няўдачы. І хоць знешне ў скульптуры ёсць усе атрыбуты алегорыі — і каласы ў руцэ, і меч, які ляжыць каля ног, — твора не атрымалася, бо аўтар не змог пераадолець прамую залежнасць ад натуры. Твор залішне натуралістычны, ілюстрацыйны. Аўтар не знайшоў цікавай вобразнай формы раскрыцця вялікай і важнай ідэі.

Савецкі чалавек не абыякавы да жыцця, гаворыць сакратар Саюза мастакоў СССР І. Сярэбраны. Ён чакае ад мастака перш за ўсё мудрасці жыцця, бо сам поўны роздуму і разваг над рэчаіснасцю. І, вядома, яго не могуць узбагаціць рамесніцкія работы як «правага», так і «левага» напрамкаў, якія пазбаўлены філасофскай думкі. Закранаючы пытанні наватарства, ён сказаў:

— У Ленінградзе нядаўна адзін са старэйшых нашых мастакоў Вярэйскі на сваім творчым вечары гаварыў: «Я не ведаю, што такое старое і новае мастацтва, я ведаю мастацтва жывое і мёртвае». Трэба, каб наша мастацтва было жывое, сённяшняе.

Пошукі новай, вострай і жывой мовы, яснасці выражэння ў мастацтве, працягвае І. Сярэбраны, — гэта не лёгкі шлях. Тут магчымы памылкі, асабліва ў маладых мастакоў. Трэба падтрымліваць моладзь, клапаціцца працаваць з ёй, чаго мы часам не робім. І галоўнае, трэба так дапамагаць, каб чалавек сам зразумеў сваю памылку і знайшоў у сабе сілы пераадолець яе. Маладыя людзі — гордыя, неспакойныя людзі, часам яны думаюць, што ў іх і памылак ніякіх няма і не можа быць. Пакрыўдзіць чалавека проста. Быць яму таварышам і настаўнікам — складаней.

— Кожны з нас адчувае вялікую адказнасць перад гледачом, — зазначае, гаворачы аб ролі мастака ў жыцці, жывапісец Я. Зайцаў. — У сапраўднага мастака заўсёды ёсць пачуццё незадаволенасці, няёмкасці перад гледачом. І гэта вельмі прыгожае пачуццё. Мы хочам аднаго — працаваць лепш, пісаць ярчэй, выразней. Гэтым заклапочаны і маладыя і старэйшыя мастакі. Знайсці новае, адпавядаючае сённяшняму жыццю, сённяшняму чалавеку, — на гэта павінна быць нацэлена ўся наша работа.

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі мастацтваў СССР М. Манізер спыняецца на важнейшых пытаннях сацыялістычнага рэалізму. Метад сацыялістычнага рэалізму, гаворыць ён, прадугледжвае разнастайнасць форм і сродкаў адлюстравання жыцця, багацце творчых індывідуальнасцей. Усе найвялікшыя дасягненні выяўленчага мастацтва — гэта вышэйшае дасягненне рэалізму. І таму мова рэалізму такая ж новая, як і старая, бо яна праўдзіва адлюстроўвае акаляючую рэчаіснасць у яе развіцці. Гэта робіць мову рэалізму заўсёды новай і жывой.

Але мова гэта надзвычай цяжкая, яна патрабуе шматгадовай працы і таленту. Адступіць ад рэалізму прасцей, чым авалодаць ім.

Як паказваць нашага сучасніка? Пра гэта асабліва многа гаварылі выступаючыя. Многія з іх справядліва абураліся тэндэнцыяй некаторых нашых мастакоў агрубляць героя — нашага сучасніка, паказваць яго прымітыўным. Другія, наадварот, выступалі супраць непатрэбнага ўпрыгожвання, супраць саладжавасці.

У многіх скульптурах, якія былі прадстаўлены на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве, гаворыць скульптар М. Роберман, адсутнічаюць больш-менш прадуманыя адносіны да пластычнай сістэмы, законы кампазіцыі, прапорцый, анатоміі. Гэта адчуваецца і ў жывапісу — напрыклад, у карцінах. М. Савіцкага «Лён», «Сацабавязацельства», «Трактарысты» і іншых. Стварэнне вобраза станоўчага героя нашага часу вельмі складаная і, разам з тым, надзвычай важная задача — праз вобраз яго мы прапагандуем наш савецкі лад, які натхняе чалавецтва на барацьбу за лепшае будучае.

Гаворачы аб неабходнасці развіцця творчых почыркаў і індывідуальнасцей, міністр культуры рэспублікі Р. Кісялёў асабліва падкрэсліў, што ўсё гэта павінна адбывацца на аснове партыйнасці і народнасці ў творчасці мастака. Трэба, зразумела, шукаць новыя формы выяўлення характараў савецкіх людзей. Але за гэтымі пошукамі нельга забываць аб галоўным — аб ідэйным змесце. Форма павінна раскрываць змест, а не падаўляць яго. Тут, дарэчы, хочацца параіць маладому здольнаму мастаку Шчэмелеву, які падчас забывае за пошукамі форм змест сваіх твораў, больш уважліва адносіцца да заўваг грамадскасці і крытыкі.

Пытанні наватарства маюць прынцыпова важнае значэнне ў мастацтве, асабліва ў выяўленчым, працягвае Р. Кісялёў. У нас, на жаль, сапраўды мала твораў, у якіх бы адчуваўся почырк мастака, якія б былі адзначаны паспяховымі пошукамі новага. Разам з тым у нас яшчэ падчас захапляюцца наватарствам дзеля наватарства, прычым, за ўзоры часам бяруцца не лепшыя здабыткі выяўленчага мастацтва — як савецкага, так і замежнага. Наватарства — гэта імкненне па-новаму раскрыць сутнасць жыцця. Вынікам гэтага наватарства павінна быць стварэнне глыбокага, складанага чалавечага вобраза, больш моцныя сродкі для яркага адлюстравання жыцця.

У нашай краіне сфарміраваўся новы тып савецкага мастака. Гэта адукаваны, прафесіянальна граматны чалавек з шырокім кругаглядам. І як бы ні адрозніваліся паміж сабой мастакі сваімі творчымі індывідуальнасцямі, талентам, чалавечымі якасцямі, мэта іх адзіная — служэнне савецкаму народу, савецкаму мастацтву. Для гэтага яны ўсёй душой павінны адчуваць гіганцкі размах будаўніцтва, чэрпаць тут сваё творчае натхненне.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# НА ШЫРОКІ ПРАСТОР

## ПЛЕНУМ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА ТАВАРЫСТВА

«Перад пісьменнікамі, мастакамі, музыкантамі, дзеячамі тэатра і кіно адкрываецца шырокі прастор для праяўлення асабістай творчай ініцыятывы, высокага майстэрства, разнастайнасці творчых форм, стыляў і жанраў».

Высокім даверам, павагай да чалавека творчай працы прасякнуты гэтыя словы Праграмы Камуністычнай партыі.

Як адказаць на заклік партыі? Як скарыстаць свабоду творчай ініцыятывы, каб быць вартым памочнікам партыі ў справе камуністычнага будаўніцтва?

Гэтымі пытаннямі сёння жывуць усе работнікі мастацтва. Ім і быў прысвечаны пленум Беларускага тэатральнага таварыства, які адбыўся 12—13 лютага ў г. Мінску. Даклад дэлегата XXII з'езда КПСС, міністра культуры БССР Р. Я. Кісялёва і выступленні ўдзельнікаў пленума былі прасякнуты творчым неспакоем і пачуццём вялікай грамадзянскай адказнасці.

— Камунізм не адмяняе, а відазмяняе працу. Сёння, як ніколі раней, нам патрэбны людзі, улюбёныя ў сваю справу, — сказаў дакладчык.

Любоў да справы становіцца неабходнай умовай кожнай прафесіі. Асабліва важна яна ў такім мастацтве, як тэатр. Тут нават адзін бяздушны рамеснік можа сваёй абыякавасцю звесці на нішто працу і намаганні цэлага калектыву.

Першае звяно ў мастацтве тэатра — драматургія. Дакладчык адзначыў пэўныя зрухі ў гэтай галіне. За мінулы год на сцэнах тэатраў рэспублікі з'явілася адзінаццаць новых п'ес беларускіх аўтараў. Сярод іх найбольшую цікавасць у грамадскасці выклікалі «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка (Тэатр імя Янкі Купалы), «Крыніцы» І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова (Тэатр імя Якуба Коласа) і «На хвалях Серабранкі» (Тэатр юнага гледача). Гэтыя творы нясуць на сабе адбітак актыўнага умяшання ў жыццё. Ідэі, закладзеныя ў іх, сучасныя і надзённыя, і, што вельмі важна, яны ўспрымаюцца гледачом як лагічны мастацкі вынік з падзей, а не ў выглядзе аголенай публіцыстыкі.

Аднак спектакляў, глыбокіх па думцы, эмацыянальных па строю, у нас паяўляецца мала. Не апраўдалі спадзяванняў грамадскасці «Твой светлы шлях» А. Маўзона і «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага ў Тэатры імя Янкі Купалы. У п'есе А. Маўзона надуманы грамадзянскі канфлікт, а асабісты лёс герояў не хвалюе гледача. Твор П. Васілеўскага не завершаны ў мастацкіх адносінах, у ім адчуваецца супярэчлівасць вобразаў, слабае веданне драматургам жыццёвага матэрыялу. Аўтар не справіўся з задачай стварэння абагуленай філасофскай драмы.

— Бяда нашай драматургіі, —сказаў тэатразнаўца Ул. Няфёд,—не ў дробнасці тэм і праблематыкі, а ў неглыбокім вырашэнні іх.

Згадзіўшыся з крытыкай дакладчыка ў адрас драмы П. Васілеўскага, Ул. Няфёд лічыць усё ж, што яна заслугоўвае прынцыповай падтрымкі, бо аўтар тут спрабуе адысці ад стандарту, шукае складаныя шляхі да вырашэння сучаснай тэматыкі.

Прамоўца закрануў пытанне аб выхаваўчым уздзеянні тэатра на гледачоў.

Думку Ул. Няфёда аб павышэнні выхаваўчых функцый тэатра падтрымаў і развіў у сваім выступленні намеснік старшыні Усерасійскага тэатральнага таварыства Д. Дэйсмар.

Рэжысёр Л. Рахленка спыніўся на праблеме мастацкага ўвасаблення задумы. Ён спасылаўся на прыклады з гісторыі тэатра, даводзячы думку аб тым, што значнасць тэмы яшчэ нічога не вырашае, калі ў творы няма праўды жыцця, а ёсць толькі праўдападобнасць. Аднак, пераходзячы да практыкі, ён заклікаў да пастаноўкі п'ес нават з недахопамі, абы ў іх узнімаліся важныя пытанні. Такім чынам, правільныя думкі ператварыліся ў яго выступленні ў амністыю недасканалым творам. Ніхто, вядома, не можа гарантаваць тэатру ў кожнай яго новай рабоце бездакорнасць мастацкіх вынікаў. Няўдачы здараюцца. Але навошта ж абвяшчаць іх нормай жыцця тэатра?

Усхвалявана палемізаваў з Л. Рахленкам рэжысёр Б. Браганцаў (г. Віцебск). Ён заклікае драматургаў садзіцца за пісьмовы стол толькі тады, калі ёсць грамадзянская патрэба выказаць нешта сваё, новае. Прамоўца выказвае катэгарычную нязгоду з А. Звонакам, які ў пачатай на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» размове аб тэатры патрабаваў ад калектываў дапрацоўкі недасканалых п'ес. Драматургам павінна быць сорамна прыносіць у тэатр паўфабрыкаты, — так заключыў сваю думку Б. Браганцаў.

Справы драматургіі, рэпертуару вельмі хвалююць дзеячоў беларускай сцэны. Гэта адчувалася ў кожным выступленні на пленуме. Шкада толькі, што ў зале амаль не было тых, ад каго залежыць гэтая справа,— саміх драматургаў.

Значнае месца ў дакладзе Р. Я. Кісялёва было адведзена ролі рэжысуры. Рэжысура знаходзіцца на стыку ўсіх праблем нашага тэатра, сказаў дакладчык. Спасылаючыся на артыкул Д. А. Арлова, апублікаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва», ён падкрэсліў, што з-за адсутнасці сапраўднага арганізатара-рэжысёра пачынае траціць ансамблевасць такі таленавіты і паважаны ў рэспубліцы і краіне калектыў, як Тэатр імя Янкі Купалы. Недахоп кваліфікаваных рэжысёраў з'яўляецца сёння галоўным тормазам у развіцці ўсіх нашых тэатраў, у павышэнні агульнага ўзроўню іх культуры.

Р. Я. Кісялёў адзначае, што ў нас дрэнна выхоўваюцца рэжысёрскія кадры. На рэжысёрскім факультэце Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута вучыцца 29 чалавек (з іх пяць—на чацвёртым курсе). На іх можна ўскладаць пэўныя спадзяванні, хоць, шчыра кажучы, гэта — кропля ў моры, калі ўлічваць вялікія патрэбы нашых тэатраў — прафесіянальных, народных, самадзейных (трэба дадаць сюды і студыі тэлебачання).

— У нас аўтарытэт рэжысёра не ўзняты на належную вышыню, — сказаў у сваім выступленні рэжысёр М. Співак.

Прызнаючы, што ў нас няма рэжысёраў, якія б самастойна і смела трактавалі творы, ён ставіць у прыклад практыку Таўстаногава, Плучака, Яфрэмава, Ахлопкава.

Вядома, што ў справе фарміравання купалаўскага калектыву адыграў значную ролю Е. Міровіч. Аднак, як напомніў Л. Рахленка, Е. Міровіч пакінуў тэатр у 1930 годзе. Трыццаць адзін год пасля яго купалаўцы працуюць з іншымі рэжысёрамі. На гэтыя гады прыпадае нямала слаўных старонак у гісторыі тэатра. Што ж прывяло яго да сённяшняга цяжкага стану?

На гэтае пытанне слушна адказаў Б. Браганцаў: у майстроў не было належнага клопату аб выхаванні змены. Каго выхаваў К. Саннікаў ці той жа Л. Рахленка? Чаму яны не маюць сваіх паслядоўнікаў?

Пошукі майстроў рэжысуры за межамі рэспублікі трэба працягваць. Але, як вядома, і там становішча не лепшае: добрых рэжысёраў не хапае ў краіне. Пра гэта гаварылі госці з Украіны і РСФСР.

Дзе ж выхад?

Напэўна, у тым, каб «выяўляць Таўстаногавых сярод нас», як сказала З. Браварская. Выяўляць і выхоўваць іх—руплiва, упарта і штодзённа. У гэтай справе значную ролю павінна адыграць і Беларускае тэатральнае таварыства. Пры ім існуе (пакуль што, на жаль, толькі на паперы) рэжысёрская секцыя. Першае кіраўніцтва секцыі нічым сябе не праявіла. Выбралі другое (старшыня—К. Саннікаў). Але, як сказаў галоўны рэжысёр Гомельскага тэатра Л. Эльстон, секцыя і да гэтага часу не падае аніякіх прыкмет жыцця. Да Л. Эльстона далучыўся мастак А. Свішчоў (Гомель). Ён прапанаваў, каб БТТ арганізоўвала калектыўныя паездкі рэжысёраў на пастаноўкі сваіх калег з абмеркаваннем прагледжаных спектакляў.

Прынцыповую размову аб становішчы ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета вяла музыказнаўца А. Ладыгіна. Яе выступленне, спрэчнае ў некаторых сцвярджэннях, было прасякнута шчырым клопатам аб перспектывах і справах гэтага буйнейшага мастацкага калектыву рэспублікі. Шкада, што галоўны балетмайстар Л. Андрэеў (адзіны прамоўца ад Тэатра оперы і балета) абмежаваўся канстатацыяй нязначных недахопаў у практыцы тэатра.

Шмат увагі на пленуме было адведзена ролі артыста ў калектыўнай творчасці тэатра.

Дакладчык адзначыў, што тэатры рэспублікі багатыя на таленавітых выканаўцаў. Вялікім здабыткам нашага мастацтва ён назваў новы тып савецкага акцёра—свядомага, адукаванага, культурнага дзеяча ідэалагічнага фронту. Прыводзячы прыклады самаадданага і плённага служэння акцёраў справе тэатра, Р. Я. Кісялёў, аднак, з неспакоем і заклапочанасцю гаварыў пра тое, што агульны ўзровень выканаўчага майстэрства ў тэатрах невысокі, што нашы артысты не заўсёды з'яўляюцца сапраўднымі выхавацелямі гледачоў. Р. Я. Кісялёў прывёў факты маральнай разбэшчанасці асобных артыстаў Тэатра юнага гледача і Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

У павышэнні культуры артыста, гаворыць дакладчык, значную ролю павінны адыграць мастацкія саветы тэатраў, якія пакуль што абмяжоўваюцца, як правіла, абмеркаваннем прэм'ер. На пашыраных пасяджэннях саветаў не ўзнімаюцца праблемныя пытанні мастацтва.

Напомніўшы выказванне М. С. Хрушчова аб тым, што «сіла партыйнасці—у калектыўным кіраўніцтве», дакладчык заклікае ўмацоўваць калектыўную думку ў тэатральным жыцці. У мастацкіх саветах, гаворыць ён, закладзена невычэрпная крыніца калектыўнасці кіраўніцтва тэатральнымі справамі.

Аб маральна-палітычным аблічча савецкага акцёра гаварылі многія прамоўцы: Ул. Стэльмах, З. Браварская, М. Співак і іншыя.

У выхаванні маладых артыстаў значную ролю адыгрывае крытыка. Яна павінна пільна сачыць за развіццём талентаў.

Закрануўшы пытанне наватарства, дакладчык з жалем адзначыў, што мала нараджаецца ў тэатрах свежых і яркіх спектакляў з арыгінальным вырашэннем. Тым больш трэба вітаць і падтрымліваць пошукі новых выяўленчых сродкаў, калі яны накіраваны на вобразнае вырашэнне ідэйнай задумы. У гэтым вялікую ролю павінна адыгрываць тэатральная крытыка. Але крытыка ў нас слабая, —адзначае дакладчык.

Гарачыя спрэчкі ўзніклі на пленуме па пытаннях творчых сувязей прафесіяналаў з народнымі тэатрамі. Рэжысёр-кансультант РДНТ С. Ґурыч, дырэктар Слонімскага РДК В. Тарасевіч, дырэктар Тэатра імя ЛКСМБ Л. Валчэцкі і іншыя гаварылі аб формах творчай вучобы артыстаў народных тэатраў. Гэтыя праблемы вырашана спецыяльна абмеркаваць на сумесным пасяджэнні прэзідыума БТТ з работнікамі Рэспубліканскага дома народнай творчасці.

Пленум Тэатральнага таварыства ўзняў шэраг надзённых пытанняў. Яны занатаваны ў прынятай на пленуме рэзалюцыі. Іх вырашэнне намечана ў плане арганізацыйна-творчых мерапрыемстваў таварыства на 1962 год, абмеркаванню якога было амаль цалкам прысвечана другое пасяджэнне пленума. Зацверджаны план прадугледжвае шырокае кола мерапрыемстваў. Ён ахоплівае ўсю разнастайнасць тэатральнага жыцця —ад буйных праблем да прыватных арганізацыйных пытанняў.



ПЕРШЫЯ АКОРДЫ. Фота В. СТАРЧАНКАВА.

# ТВАРЫЦЬ ДЛЯ НАРОДА, У ІМЯ КАМУНІЗМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й і 2-й стар.).

Аб неабходнасці пошукаў гаварылі А. Гугель і І. Ахрэмчык. Мастак павінен заўсёды шукаць. Аднак пошукі — гэта не фокуснічанне. Нельга мірыцца, калі на палотнах з'яўляюцца людзі недарэчнымі, без думкі і інтэлекту, нават з абрубленымі тварамі і абрэзанымі чарапамі, што мы нярэдка бачым у заходніх мастакоў.

А. Гугель падкрэсліў, што ў апошні час наогул пачалі блытаць станковы жывапіс з дэкаратыўным, з плакатам на палатне. Больш таго, можна пачуць галасы — маўляў, далоў станковы жывапіс. Гэта не што іншае, як дэмагогія. Калі ўжо гаварыць аб сапраўдным наватарстве, дык пад ім трэба разумець новы змест, перадачу новых думак і пачуццяў. На гэта павінны арыентавацца і старэйшыя і маладыя мастакі. Новы змест народзіць і новую форму. Аднак абнаўленне формы — працэс складаны і працяглы. І наіўнымі выглядаюць спробы «чыстага» наватарства, калі мастак імкнецца галоўным чынам здзівіць гледача. Гэта робіцца часцей за ўсё ад жадання быць модным.

Т. Разіна.

Л. Ран.

Г. Азгур.

На праблеме наватарства спыніўся скульптар З. Азгур. Ён гаварыў таксама аб арганізацыйных пытаннях работы саюза, аб тым, што праўленне і секцыі павінны глыбей цікавіцца творчасцю мастакоў, дапамагаць ім у вырашэнні творчых задум.

Новая форма нараджаецца толькі шляхам глыбокага вывучэння жыцця, — гаворыць І. Ахрэмчык. — Форма — не штосьці другараднае, гэта ў пэўнай меры светапогляд мастака.

Кажуць, што патрэбны мастакі розныя, розных стыляў і почыркаў. Аднак розныя стылі нараджаюцца на той жыццёвай аснове, на якой развіваецца сам мастак. Сапраўдны поспех чакае мастака толькі там, дзе ён ідзе ад жыцця, а не ад формы, не ад стылю.

— Я не магу не пагадзіцца з крытыкай маіх работ старэйшымі таварышамі, — сказаў Ул. Стальмашонак. — Я разумею, што многага яшчэ не дасягнуў. Разам з тым я не магу пагадзіцца, калі замест таго, каб шукаць, узбагачаць сябе, як мастака, на шляху гэтых пошукаў, мне прапануюць ісці след у след за старэйшымі, па пратаптаных імі сцежках. У мастацтве няма пратаптаных сцежак. І да якіх бы здабыткаў ні прыйшоў мастак, ён павінен прыйсці сваім шляхам.

Далей Ул. Стальмашонак гаворыць аб тым, што ў саюзе кепска наладжана работа з маладымі мастакамі. Маладзёжная камісія, якая была створана некалькі гадоў назад па прыкладу іншых рэспублік, па сутнасці, ліквідавана, нічога не робяць у гэтым кірунку праўленне Саюза мастакоў і секцыі.

У Беларусі ёсць Тэатральна-мастацкі інстытут, які рыхтуе жывапісцаў, скульптараў, графікаў, дэкаратараў. Здавалася б, што справа падрыхтоўкі маладых кадраў у нас можа і павінна быць на ўзроўні. На жаль, у рабоце інстытута ёсць недахопы, якія сур'ёзна тармозяць справу. Аб тэтым гаварылі старэйшы мастак сцэны А. Марыкс, а таксама П. Дурчын, М. Данцыг і іншыя.

Цікавую гаворку аб узаемаадносінах паміж рознымі галінамі мастацтва і архітэктурай павяла на з'ездзе старшыня Саюза архітэктараў БССР В. Ладыгіна. Амаль ва ўсе перыяды гісторыі, сказала яна, архітэктура і выяўленчае мастацтва не былі абыякавыя адзін да аднаго, аказвалі ўзаемны ўплыў у стварэнні форм і стылю. Творчыя метады і новыя мастацкія прыёмы архітэктуры і зараз аказваюць непасрэдны ўплыў на выяўленчае мастацтва. Гэтага патрабуе само жыццё.

А. Бархаткоў.

Мал. М. ЖЫТНІЦКАГА.

Архітэктура за апошнія гады пайшла значна ўперад, пачала выпрацоўваць новы архітэктурны стыль. І мастакам і скульптарам пара выходзіць з вузкіх рамак застарэлых паняццяў і догмаў. Перад імі стаяць вялікія задачы паляпшэння архітэктурна-мастацкага аблічча нашых гарадоў і сёл. Вялікую ролю тут павінны адыграць як дэкаратыўна-прыкладное, так і манументальнае мастацтва. Партыя гаворыць, што мастацтва павінна непасрэдна ўвайсці ў жыццё, упрыгожыць быт, адухатварыць працу чалавека, павінна выхоўваць у яго густ і эстэтычныя пачуцці, зрабіць яго высакародным.

Добраўпарадкаванне гарадоў, афармленне магістралей, уездаў у гарады, інтэр'ераў жылых і грамадскіх будынкаў, кінатэатраў, дзіцячых садоў, школ — усюды патрэбна вока мастака. Усё гэта ставіць перад намі задачы стварэння новых выяўленчых прыёмаў афармлення. На жаль, гэтыя пытанні не знайшлі адлюстравання ў дакладзе праўлення саюза. Давядзецца прыкласці яшчэ нямала намаганняў, каб адстаяць прызнанне манументальнай скульптуры і жывапісу ў якасці неаддзельнай часткі архітэктурных збудаванняў. І разам з тым, трэба развіваць у мастакоў уменне ўключаць у сучасную архітэктуру творы жывапісу і скульптуры — фрэсак, рэльефаў, мазаік і г. д.

Прымяненне дасягненняў будаўнічай тэхнікі стварае ўмовы, аднак не гарантуе прагрэсіўнасці архітэктурнага збудавання. Пакуль што яшчэ не знойдзены прыёмы кампазіцыі і знешняга афармлення буйнапанельных жылых будынкаў, якія б задавальнялі эстэтычныя запатрабаванні. Прымяненне каўровай, керамічнай пліткі ў якасці абліцовачнага матэрыялу не заўсёды апраўдана. Патрэбна шукаць больш простыя, танныя і разам з тым больш выразныя сродкі — прымяненне колеру і манументальнага жывапісу, якія б маглі выступаць у сінтэзе з любой канструкцыяй. Гэтую задачу неабходна вырашаць сумесна архітэктарам і мастакам, але для гэтага неабходна пераадолець застарэлыя погляды. Для гэтага неабходна пранікнуцца духам сучаснасці і, ва ўсякім разе, не ставіць рагатак на шляху пошукаў новых форм.

У стварэнні новага аблічча нашых гарадоў мы павінны зыходзіць з новых адносін да арганізуемай прасторы, якія маюць месца ў сучасных прынцыпах горадабудаўніцтва, і перш за ўсё ў ідэі мікрараёнаў. Ва усім гэтым закладзены вялізарныя, яшчэ не выкарыстаныя магчымасці архітэктурна-мастацкага ўздзеяння на савецкага чалавека.

Многім вялікім сучасным тэмам у мастацтве часам становіцца цесна ў вузкіх рамках станковага жывапісу і станковай скульптуры, працягвае размову, пачатую В. Ладыгінай, скульптар А. Анікейчык. Гэтыя тэмы просяцца на фасады дамоў, на светлыя прасторы сучасных інтэр'ераў. Яны павінны быць на плошчах і праспектах, парках і бульварах, быць у народзе, каб сродкамі манументальнай прапаганды, аб якой гаварыў Ул. І. Ленін, несці ў масы ідэі партыі.

Што ні кажы, заўважае прамоўца, а музеі, дзе ў асноўным сустракаецца мастак з гледачом, наведвае абмежаванае кола людзей. Манументальнае ж мастацтва жыве ў народзе пастаянна. Вялікія задачы і магчымасці гэтага мастацтва! На жаль, у нашай рэспубліцы яму ўдзяляецца надзвычай мала ўвагі. У Мастацкім фондзе склалася недарэчнае становішча. Так, напрыклад, размеркаванне заказаў на помнікі сярод скульптараў адбываецца згодна «жывой чаргі», без уліку творчых магчымасцей і імкненняў аўтараў. У выніку на свет паяўляюцца помнікавыя скульптуры, якія выкананы без натхнення і майстэрства.

Кожны помнік, падкрэслівае прамоўца, павінен папярэдне абмяркоўвацца шырокай грамадскасцю. Мадэлі помніка трэба паказваць на выстаўках, выстаўляць на спецыяльных глядзельных пляцоўках перш, чым прымаць іх. Яны каштуюць вельмі дорага і ў выпадку няўдачы іх не схаваеш у музейны запаснік.

Вялікай трывогай за становішча дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прагучала выступленне госця з Эстоніі тав. Э. Эймана. Прыкладное мастацтва, як вобразна сказаў наш госць, у руках таленавітага мастака—чароўная палачка, якая стварае прыгажосць і ўтульнасць усюды, дзе жыве і працуе чалавек. Высокі ўзровень прыкладнога мастацтва, яго ўсебаковае выкарыстанне— адзнака культурнага ўзроўню жыцця народа, яго густаў і эстэтычных запатрабаванняў.

Новаму праўленню Саюза мастакоў і кіраўніцтву Мастацкага фонду, а таксама Міністэрству культуры, сказаў мастак П. Крохалеў, неабходна дабіцца ўсебаковага развіцця усіх відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якое так любіць і ў якім мае вялікую патрэбу наш народ.

Значная роля ў развіцці мастацтва належыць мастацтвазнаўчай крытыцы.

Яе задача — кваліфікавана аналізаваць з'явы мастацкага жыцця. Але ў нашым друку часта з'яўляюцца некваліфікаваныя, неаб'ектыўныя, або проста інфармацыйныя артыкулы, гаворыць М. Роберман. Яны не даюць ніякай карысці ні мастакам, ні чытачам.

Працягваючы гэтую размову, мастак Я. Ціхановіч спыняецца на рабоце крытычнай секцыі Саюза мастакоў. Члены секцыі вельмі рэдка выступаюць на абмеркаваннях выставак, на разглядах асобных работ мастакоў, яны рэдкія госці ў творчых майстэрнях. Рэдка выступаюць яны і ў друку. Гэтая абыякавасць і заспакоенасць членаў крытычнай секцыі выклікае трывогу ўсіх мастакоў. Аднак праўленне саюза ні разу не разглядала пытанне аб стане крытыкі выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы.

Адзіным суддзёй творчасці мастакоў у нас да сённяшняга дня застаецца выставачны камітэт Міністэрства культуры. Але гэты важны орган не можа і не абавязаны займацца дэталёвай і ўважлівай ацэнкай творчасці асобных мастакоў. Такім органам мог бы быць мастацкі савет. Даўно наспела неабходнасць аднавіць яго работу. Тады знікнуць паспешлівыя рашэнні, будзе менш памылак у рабоце выстаўкома, бо мастацкі савет здолее займацца папярэднім зацвярджэннем эскізаў і рэкамендацыяй іх выставачнаму камітэту для заключэння дагавораў.

Аб выстаўкоме як органе, які адказны за папулярызацыю ўсяго лепшага ў беларускім выяўленчым мастацтве, гаварылі многія прамоўцы. Задача выстаўкома, сказаў мастак М. Бельскі, рабіць правільны і аб'ектыўны адбор мастацкіх твораў, не дапускаючы да экспазіцый шэрых і незавершаных палотнаў, скульптур, графічных лістоў. Вышэйшым прынцыпам яго дзейнасці павінны быць аб'ектыўнасць, узаемная павага, давер'е да таварышаў па мастацтву. Ці заўсёды праяўляюцца гэтыя якасці ў членаў нашага выстаўкома? Далёка не заўсёды.

Рэспубліканскаму выставачнаму камітэту трэба дэмакратызаваць сваю дзейнасць — аб гэтым гаварылі многія прамоўцы. Апрача выканання сваёй функцыі — заключаць дагаворы з мастакамі — выстаўком павінен накіроўваць творчае жыццё.

Нам патрэбны добрыя і розныя творы, нам трэба, каб развіваліся і раслі таленты з рознымі індывідуальнасцямі і почыркамі. І чым больш разнастайнымі, своеасаблівымі будуць яны, тым больш багатым будзе выяўленчае мастацтва рэспублікі. На жаль, нярэдка бывае так, што члены выстаўкома імкнуцца да ніверліроўкі талентаў. Гэтую думку выказаў у сваім выступленні мастак М. Данцыг. Яго падтрымалі іншыя мастакі. Яны прыгадвалі выпадкі, калі выстаўком садзейнічаў паяўленню на выстаўках шэрых, аднастайных работ.

Гаворачы аб неабходнасці дэмакратызаваць дзейнасць выстаўкома, прамоўцы неаднаразова падкрэслівалі той факт, што выстаўком на працягу шмат гадоў не мяняе свайго складу. Праходзяць гады, растуць новыя мастакі, яны ўдзельнічаюць на выстаўках з новымі творамі, а склад выстаўкома застаецца ранейшым, і густы ў яго застаюцца ранейшымі, якія не заўсёды адпавядаюць узрослым задачам развіцця нашага выяўленчага мастацтва.

Галоўная бяда выставачнага камітэта якраз у тым, што ён працуе ў адрыве ад творчых арганізацый саюза. Работы, якія прадстаўляюцца камітэту, не абмяркоўваюцца папярэдне на секцыях. А іменна секцыя і павінна быць першай інстанцыяй, дзе з мастаком вядзецца творчая, прафесіянальная размова. Неабходна, каб секцыі не толькі абмяркоўвалі, але і рэкамендавалі і нават абараняліі лепшыя работы на выстаўкоме. Гэта павысіць прынцыповасць, павысіць творчы ўзровень работы камітэта ў цэлым, ліквідуе магчымасць індывідуальнага, неаб'ектыўнага падыходу да творчасці тых ці іншых мастакоў.

Гаворка на з'ездзе вылілася ў прынцыповую размову аб далейшых шляхах развіцця беларускага выяўленчага мастацтва, аб неабходнасці глыбейшага вывучэння жыцця, неабходнасці працаваць па-новаму, быць на ўзроўні задач, якія стаяць зараз перад савецкім народам.

Чалавеку гавораць ДЗЯКУЙ

# ЗВАНІЦЕ па тэлефоне 1-25...

Ад самых дзвярэй Анатоль урачыста крыкнуў:

— Перамаглі!..

Алежка — чатырохгадовы хлапчук — кінуўся насустрач бацьку:

— Ура!..

Але Ніна не падзяліла мужавай радасці. З дакорам паказала яна на гадзіннік і выйшла на кухню.

Добры настрой Анатоля як рукой зняло. На сэрцы закіпела крыўда на жонку. І кожны раз так: варта яму затрымацца дзе-небудзь — хоць бы, як сёння, на валейбольных спаборніцтвах — і дадому хоць не прыходзь. А чаму? Няўжо ён дзед які-небудзь, каб адно толькі і ведаць — дома сядзець. Як добра было раней, калі ўсюды хадзілі яны разам з Нінай. Цяпер так не выпадае — няма на каго пакінуць Алежку. Дык што ж — зрабіцца праз гэта дамаседам, адарвацца ад таварышаў?..

Але адразу ж падумалася іншае: дык жа і Ніна таму крыўдуе, што не можа, не мае магчымасці выйсці з дому. А ёй таксама хочацца і на рэпетыцыю ў клуб, і на валейбольную трэніроўку... Вось становішча — і выйсця не знойдзеш!..

Пра сваю бяду Анатоль расказаў неяк у камітэце камсамола. І як жа быў ён здзіўлены, калі наступным вечарам да іх дамоў прыйшла кантралёр АТК Раіса Фралова.

— Мяне прыслаў «штаб добрых спраў», — сказала яна.

— Хто? — здзівіўся Анатоль.

—«Штаб добрых спраў». Гэта мы ў камсамольскай арганізацыі аддзела тэхнічнага кантролю стварылі.

— Не разумею.

— Вы ўчора скардзіліся, што няма на каго сына пакінуць, калі хочаце куды схадзіць з жонкай... Вось я і прыйшла...

— Шчырае дзякуй табе, Раіса, — сумеўся Анатоль. — Але сёння мы, відаць, ужо нікуды не пойдзем. А ў другі раз абавязкова да вас звернемся. Шчырае дзякуй.

Назаўтра ўвесь завод абляцела вестка, што камсамолкі аддзела тэхнічнага кантролю стварылі «штаб добрых спраў». Тэлефон 1-25, па якому звоняць у штаб, хутка стаў адным з самых папулярных на заводзе. У штаб прыходзяць і звоняць маладыя маці, бацькі, усе, каму патрэбна дапамога і падтрымка. І дзяўчаты з АТК ахвотна адгукаюцца на іх просьбы.

— Спачатку некаторыя пярэчылі, — успамінае камсорг АТК Марыя Салавей. — Што мы, нянькі,— казалі.— Самім пагуляць хочацца. Ды і вучацца многія... Але потым задуманая справа прыйшлася да душы многім.

— Усе мы вучымся. Усе даражым сваім часам, — расказваюць і іншыя дзяўчаты. — Але разумеем, што робім патрэбную, высакародную справу. А іначай жыць цяпер нельга.

Нядаўна ў заводскай шматтыражнай газеце было апублікавана пісьмо майстра экіпажнага цэха Мікалая Талькевіча. Яно называлася «Вялікае дзякуй».

«Калі ў мяне пачалася экзаменацыйная сесія, жонка працавала ў першай змене, і не было на каго пакінуць дачку, — піша М. Талькевіч. — На дапамогу прыйшлі камсамолкі з «штаба добрых спраў». Яны заставаліся з дзіцем, вельмі, вельмі памаглі мне і маёй сям'і. Можна сказаць, што дзякуючы ім, і ў першую чаргу Раі Фраловай, я паспяхова здаў усе экзамены. Ад шчырага сэрца дзякую Раі і яе сяброўкам за іх добрыя, патрэбныя справы».

Такія пісьмы часта прыходзяць у камітэт камсамола завода. Як тут не паціснуць моцна рукі дзяўчатам са «штаба добрых спраў!».

Я. МАЗО.

Мінск. Мотавелазавод.

## У ТВОРЧУЮ КАМАНДЗІРОЎКУ

Гэтая педкова —
Не выпадкова.

Мал. А. ВОЛКАВА.

